ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 20 (1775) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 20 МАЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.



Урачыстасць пасвячэння краевугольнага каменя пад царкву Уваскрашэння Гасподняга ў Беластоку (Фотарэпартаж глядзі на стар. 6—7).

## „ШАВІНІСТЫ", „НАШЫ ЛЮДЗІ" І „ДОБРЫЯ БЕЛАРУСЫ"

Калі хтосьці крыху ўважней назірае за працэсам развіцця нацыянальнай свядомасці праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны, то сёння якраз, у перадвыбарчай атмасферы, можа дакладней прааналізаваць тыя змены, што наступілі апошнім часам ва ўсіх грамадскіх асяроддзях. Прыглядаючыся да сваіх знаёмых і незнаёмых, тых, што вучоныя-сацыёлагі акрэсліваюць „беларусамі", я памкнуўся класіфікаваць псіхалагічныя тыпы беларусаў, распрацоўваючы дзеля гэтага сваю прыватную тэрміналогію.

Пачну ад тых, якіх нашы браты-палякі, у тым ліку і „праваслаўныя палякі", акрэсліваюць „экстрэмістамі", „нацыяналістамі", „шавіністамі". У пераважнай большасці гэта журналісты, літаратары, мастакі, філолагі, юрысты, студэнты, але ёсць таксама і сяляне-гаспадары. Выглядам яны наўрад ці адрозніваюцца ад іншых людзей, аднак пазнаць іх няцяжка, бо нават (!) на вуліцы, у аўтобусе, у краме і сярод палякаў (о жах!) гавораць паміж сабою па-беларуску. Ці ж гэта не шавінізм?! Мала таго, ствараюць яшчэ нейкія партыі, арганізацыі, выдаюць газеты і іншыя бюлетэні, дамагаюцца раўнапраўнасці беларускай мовы ў адміністрацыі і ў школе, паляпшэння гаспадарчай інфраструктуры на ўсходняй Беласточчыне, а апошнім часам захацелі нават выйграць выбары ў тых гмінах, дзе ў большасці пражываюць беларусы („тутэйшы народ"). Гэта група небяспечных вар'ятаў-рамантыкаў, якія трацяць свае грошы, час і здароўе, каб стварыць свайму народу перспектывы эканамічнага развіцця, даць людзям нармальнасць, адчуванне нацыянальнай годнасці, пазбавіцца ад лёкайскага рабалепства. Вар'яцтва гэтых, пераважна маладых, людзей асабліва на відавоку тых, што стаяць збоку і прыглядаюцца. Бо ці хтосьці нармальны — паводле іхняга пункту гледжання — будзе працаваць звыш наканаванага часу па некалькі гадзін штодня, ведаючы, што за гэтую працу ніхто не заплаціць, не дасць медалёў ані пасады, а свае і чужыя глядзець будуць на такога, як на нейкага дзівака?

Другі псіхалагічны тып беларусаў складаюць „нашы людзі", як самі сябе яны называюць. З палітычнага пункту гледжання гэта істоты незнішчальныя. У гмінах, грамадскіх і гаспадар[illegible] арганізацыях яны існуюць і дзейнічаюць на правах мафіі. Адзін пра аднаго ўсё ведае, адзін аднаго падтрымлівае, хоць пры тым можа і ненавідзець. „Нашы людзі" патрэбны адзін другому. Збоку гледзячы, гэта такія беларусы, якія зацясаліся ў начальнікі і трымаюцца за свае пасады. І такімі іх бачылі палякі. Прабываючы сярод „нашых людзей", мы аднак жа не заўважым ні крышачкі беларускасці ў іхніх душах. „Наш чалавек" у працы, на вуліцы і дома гаворыць па-польску, хоць умее і „па-свойму". Сваёй мовай ён карыстаецца зрэдку, асабліва тады, калі, падвыпіўшы, спявае савецкія песні, пераплятаючы іх з напевамі „шла дзевэчка до лясэчка". „Наш чалавек" — гэта той, хто нарадзіўся ў праваслаўнай сям'і і не змяніў веры. Нягледзячы на тое, ці ходзіць у царкву, ці не, называе сябе праваслаўным, і тым адрозніваецца ад „не нашых" — каталікаў. Калі „наш чалавек" сядзе на высокай пасадзе, то стараецца, каб ягонымі супрацоўнікамі таксама былі „нашы людзі". Найчасцей вакол нейкага „пана прэзаса" ці „пана дырэктара" збіраецца плойма швагроў, кумаў і цётак, і гэтакім чынам — крыху інакш, чым у Японіі — ствараецца сямейная атмасфера ў фірме. Разам у працы, разам у інтарэсах і на імянінах. Праўда, апошнія падзеі трошкі скаламуцілі гэты гарманічны сыты спакой: былі меся-

(Працяг на стар. 4)

## СПІСАК КАНДЫДАТАЎ БЕЛАРУСКІХ ВЫБАРЧЫХ КАМІТЭТАЎ

### ГАЙНАЎКА

**Сяргей Сац** (акруга 1)
**Ян Якімюк** (акруга 2)
**Мікалай Бушко** (акруга 3)
**Дзмітры Ціханюк** (акруга 4)
**Уладзімір Сахарчук** (акруга 7)
**Васіль Іванюк** (акруга 11)
**Марыя Цыборан** (акруга 12)
**Пятро Скепка** (акруга 13)
**Якуб Астапчук** (акруга 15)
**Пятро Твай** (акруга 21)
**Уладзімір Манцюк** (акруга 26)
**Аляксандр Стоцкі** (акруга 28)

### ГАЙНАЎКА-ГМІНА

**Уладзімір Крук** (акруга 1)
**Уладзімір Снарскі** (акруга 2)
**Міраслаў Койла** (акруга 3)
**Міхал Аўярчук** (акруга 4)
**Мікалай Яноўскі** (акруга 5)
**Аляксандр Каролька** (акруга 5)
**Мікалай Габрылеўскі** (акруга 9)
**Аляксей Амельянюк** (акруга 9)
**Валянціна Бірылка** (акруга 10)
**Ян Петручук** (акруга 10)
**Ян Гаўрылюк** (акруга 11)
**Мікалай Несцярук** (акруга 12)
**Мікалай Галёнка** (акруга 13)
**Надзея Харытанюк** (акруга 14)
**Аляксей Сельвясюк** (акруга 14)
**Тамара Баравік** (акруга 16)
**Анатоль Дунда** (акруга 16)
**Уладзімір Літвінюк** (акруга 17)
**Мікалай Вараньчук** (акруга 18)
**Уладзіслаў Галёнка** (акруга 18)

### БЕЛЬСК-ПАДЛЯШСКІ

**Пётр Швэдко** (акруга 4)
**Мікалай Юрчук** (акруга 5)
**Яўгенія Чачуга** (акруга 7)
**Аляксандр Карбоўскі** (акруга 8)
**Сцяпан Выркоўскі** (акруга 9)
**Анна Клімюк** (акруга 11)
**Арсень Артысевіч** (акруга 13)
**Юрка Баена** (акруга 14)
**Васіль Ляшчынскі** (акруга 17)
**Сяргей Лукашук** (акруга 18)
**Паўліна Трафімюк** (акруга 19)
**Уладзімір Сац** (акруга 20)
**Рыгор Старчэўскі** (акруга 21)
**Аляксандр Бажко** (акруга 22)

(Працяг на стар. 6)

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка



*Шчырыя пажаданні ўсім закаханым!*

## Вэра Рыч у Варшаве

З перакладчыцай беларускай паэзіі на англійскую мову, журналісткай, спецыялістам па справах Усходняй Еўропы Вэрай Рыч чытачоў „Нівы" нядаўна азнаёміў Ян Максімюк, пішучы пра сустрэчу ў Беластоку. Студэнты варшаўскіх вышэйшых школ маглі з ёю спаткацца два разы: у нядзелю, 18 сакавіка, у капліцы Украінскай каталіцкай царквы, дзе а. Аляксандр Надсон адпраўляў божую службу на беларускай мове, і 2 красавіка ў клубе БГКТ. Пані Вэра, размілаваная ў царкоўнай музыцы, падрабязна ведае парадак багаслужбы на беларускай мове. Калі толькі мае свабодную хвіліну, спявае ў лонданскай царкве св. Пятра і Паўла. Будучы ў Варшаве, не магла яна прапусціць нагоду ўдзельнічаць у беларускай літургіі. Другі раз наведала Варшаву, каб спаткацца з басаўцамі і расказаць ім пра тое, што пачула на арганізаваным некалькі дзён раней у Кракаве сімпозіуме „Лекары свету". Сімпозіум гэты многа ўвагі прысвяціў чарнобыльскай трагедыі. Сітуацыю прадстаўлялі лекары і журналісты з Савецкага Саюза. На канферэнцыі было сказана, што 70 працэнтаў усяе радыяцыі пайшло на Беларусь, якая атрымала куды меншую дапамогу. чым пацярпеўшыя раёны УССР, РСФСР. Пані Вэра прыводзіла за знаўцамі праблемы дадзеныя аб стане здароўя насельніцтва Беларусі. Аказваецца, што ў рэспубліцы ў 40—50 працэнтаў дзетак хворыя шчытападобныя залозы, а на Палессі — у больш 70 працэнтаў. У Гомелі 10 працэнтаў дзяцей родзіцца хворымі. Гэтую жудасную карціну немагчыма ўспрымаць спакойна, без эмоцый. Асабліва, калі ўсвядомім сабе, што толькі чатыры гады пасля аварыі ўголас загаварылі пра бяду афіцыйныя органы. Да гэтай пары было нібыта ўсё нармальна, бяспечна. А для людзей якраз горш пашкодзілі забруджаныя харчы (цяпер, па сутнасці, у Беларусі няма чыстых ад радыяцыі прадуктаў), доўгае прабыванне ў забруджаных раёнах, чымсьці першая хваля радыяцыі пасля выбуху. Шмат што можна было б прадухіліць, калі б адразу даць неабходную медыцынскую дапамогу, высяліць людзей з найбольш небяспечных зонаў, звярнуцца да сусветнай грамадскасці за дапамогай. Але гэта не было зроблена, а пройдзенага часу не вернеш.

Вэра Рыч здаўна цікавіцца экалогіяй. Не раз прымала яна ўдзел у ратаванні з небяспекі аб'ектаў, забруджаных раёнаў. На сустрэчы выказвала яна свой непакой лёсам Белавежскай пушчы, апошняга такога лясного масіву ў Еўропе, які з'яўляецца ўласнасцю не толькі беларусаў і палякаў, але ўсяе супольнасці еўрапейцаў. Невядома дакладна, як на пушчу будзе ўздзейнічаць Семяноўскае вадасховішча — маса вады, якая напэўна ўнясе змены ў мясцовы клімат і глебавыя ўмовы. Але наўрад ці Белавежская пушча дачакаецца канца пабудовы вадасховішча. Вядзецца рабункова эксплуатацыя лесу, асабліва брытанскай фірмай „Фарнэль". „Вы, студэнты, павінны таксама ўключыцца ў абарону супольнага багацця, — сказала Вэра Рыч. — Трэба інфармаваць свет пра кожнае парушэнне, трэба гаварыць, пісаць, пратэставаць! Во! І трэба спяшацца, каб зноў, каторы ўжо раз, не было запозна". Вэра Рыч не была б журналісткай, каб не шукала сабе тэмы ўсюды і заўсёды. Таксама і пра БАС хацела ведаць як найбольш. Паслухаўшы нас, параіла выйсці нам у шырэйшы свет, паказацца як смелая арганізацыя інтэлігентных людзей, а не як сяброўскі гурт ці „drinking club". Для гэтага БАС павінен актыўней уключацца ў жыццё вышэйшых школ, арганізаваць навуковыя сесіі, друкаваць матэрыялы з іх. І не забываць пра экалогію ў як найшырэйшым разуменні.

Мікола Ваўранюк

## СІНТАКСІС У КАХАННІ

Калі хлопец на дзяўчыну
Ўсё глядзіць з замілаваннем,
Знаць, на тое ёсць прычына —
Узнікае *прымыканне*.

Пачуцця хапае, сілы
Кожны вечар на спатканні:
— Родны мой...
— Як ты мне міла!.. —
Гэта ўжо *дапасаванне*.

Так жыве між імі згода,
Іх вясны мінае ранне —
Без яе ён ані ходу —
Пачалося *кіраванне*.

Іван Курбека

БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫКА НА ВЫСОКІМ ЎЗРОЎНІ!



АТРАКЦЫІ!

НЕСПАДЗЯВАНКІ!

Госці з БССР:

KASIA KAMOCKA
SIARŽUK SOKAŁAŬ
ANDREJ MIELNIKAŬ
VIKTAR ŠALKIEVIČ
ALEŚ KAMOCKI I JAHO KAMANDA



MROJA

ULIS

А таксама:

ELA BEZIUK
ALBAROSIKI







BASOVIŠČA

ФЕСТЫВАЛЬ МУЗЫКІ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

13-15 07 90
ГАРАДОК



Дакладныя інфармацыі ў наступнай ПРЫСУТНАСЦІ

# „Шавіністы", „нашы людзі" і „добрыя беларусы"

(Праняг са стар. 1)

цы і тыдні няпэўнасці, па начах снілася кашмарнае, але цяпер спакваля ўсё вяртаецца да „нармальнасці". Аказваецца, хопіць толькі змяніць шыльду і лозунгі, каб „нашы людзі" перавялі дух і зноў рушылі ў барацьбу. Нядаўна яшчэ штосьці мармыталі пра „класавую барацьбу", цяпер пачынаюць заікацца пра дэмакратыю і плюралізм. Для іх гэта адно і тое ж, абы згодна з духам трыбун.

Усе „нашыя людзі", незалежна ад таго, ці пражываюць у Міхалове, Крынках, Беластоку ці Гайнаўцы, гэта найлепшыя на еўрапейскім кантыненце канспіратары. У канспірацыі пражылі жыццё, канспіратарамі выхавалі сваіх дзяцей. І, нягледзячы на тое, што на іх глядзяць з пагардай тыя, перад кім яны канспіруюцца, падняць іх з гэтага самапрыніжэння няма магчымасці. Для іх гэта нармальны стан. Шкада толькі, што, не будучы фактычна беларусамі, яны беларусаў кампраметуюць, бо палякі ўсё роўна атаясамліваюць іх з беларусамі.

Трэці псіхалагічны тып, які вырастае з мора тутэйшасці, гэта „добры беларус". Назву я запазычыў у аднаго свайго знаёмага, які пагаворвае: „Добры беларус, гэта такі, які ў любы момант можа стаць палякам". Да сэрца „добрага беларуса" дабіваецца беларуская інтэлігенцыя, прапануючы: „Працуйце, вучыцеся, арганізуйце, гандлюйце, калі трэба, пасобім". Туды таксама звяртаюцца „нашыя людзі": „Мы вам дапаможам, дамо, зробім для вас, толькі вы...". „Добрыя беларусы" ўсё-такі спакваля перастаюць быць неакрэсленай масай. Сваю нацыянальнасць яны найчасцей акрэсліваюць як беларуская, але, калі дачка або сын загаворыць да іх на дзяржаўнай мове, яны адказваюць на такой жа. У які бок у канчатковым выніку схіліцца гэтая асноўная маса нашай этнікі, ніхто не ведае. Гэта найбольш будзе залежаць ад дзяржаўнай палітыкі. Ці будзе яна такой, якая далей спрыяе прадукцыі „нашых людзей", ці можа дасць магчымасць развіцця нацыянальнай свядомасці ўсім меншасцям, — пакажа недалёкая будучыня.

**Яўген Міраповіч**

## КАБ МАЛАДЫЯ ЖЫЛІ ДОБРА...

Марыся, як заўсёды, вярталася з працы. Як штодзень, несла дзве сумкі пакупкаў. Думала: „Муж дома ці п'е?"

Часта, вельмі часта яе Косця сядзеў у бары і прапіваў выплату.

Як хутка мінулі бесклапотныя гады маладосці! Пасля замужжам. Бацькі рабілі ўсё, каб яна выйшла замуж за Косцю, не хацелі і ведаць пра Мірка, які кахаў іх дачку.

Пасля вяселля перасялілі маладых у горад. Косця пачаў піць, але і яго бацькі, і яе рабілі ўсё, каб маладыя жылі добра, разам. Давалі ім грошы, куплялі вопратку, давалі харчы. Нарадзілася трое здаровых дзетак, дзяўчынак.

Так прайшло сем гадоў. Марысіны бацькі памерлі, а ў Косці астаўся толькі бацька, ды і той занядужаў. І брат не дапамагаў ужо Косцю. Трэба было жыць з зробленых уласнымі сіламі грошай.

— Навошта я слухала бацьку? — дакарала сябе Марыся. — Трэба было выйсці за Мірка. Такі быў добры, але...

І аднойчы...

— Гэта ты, Марыся? Няўжо гэта ты? — перад ёю стаяў Мірэк у ваеннай форме.

— Мой любы, — сказала Марыся і пачырванела. — Я чакала тваіх лістаў. Ты не пісаў, адкуль паехаў у Вроцлаў!

— Пісаў я і то шмат разоў, але ты маўчала. Я думаў, што ты мяне не хочаш!

— Гэта значыць, бацькі хавалі лісты ад цябе?

— Гаварыў табе — едзь са мною, але ты пабаялася...

— Ох, Мірэк! Я...

Тут падышла прыгожая бландзінка.

— Прабач, дарагая, — пацалаваў Мірэк у шчаку сваю жонку. — Я сустрэў сяброўку.

Марыся яшчэ доўга стаяла. Потым паправіла ў руках сумкі і пайшла дадому.

**Аўрора**

## КРАДЗЕЖ ІКОН

Апошнім часам узрасла колькасць крадзяжоў з узломам у сакральныя аб'екты. Узломшчыкі шукаюць у цэрквах і касцёлах каштоўныя літургічныя прадметы з золата і серабра, крадуць іконы. Такім чынам абкрадзены дзесяткі цэркваў, а старыя іконы трапляюць у рукі калекцыянераў у заходніх краінах. Гіне наша духоўная спадчына.

Уначы з 20 на 21 красавіка г.г. зладзеі вынеслі з царквы ў Ольштыне восем іконаў. Самай каштоўнай была ікона Божай Маці з XVIII ст., маляваная на дрэве. Іншыя паходзілі з XIX і пачатку XX стагоддзя. Настаяцель а. Аляксандр Шаломаў і прыхаджане вельмі моцна перажываюць гэтую страту.

**А. Гаўрылюк**

**Дзе ж наша талерантнасць?**

## САТАНІНСКІЯ СЦІХІ

**Беластоцкія, і не толькі беластоцкія, газеты адкрылі свае старонкі для шырокіх слаёў чытачоў, ад гатунку карэспандэнта-назіральніка, які дзеліцца з іншымі чытачамі сваімі поглядамі, накіроўваючыся канструктыўнай крытыкай, да гатунку брахуна і памыйніка. І газеты публікуюць амаль усё. Можа таму, каб здабыць чытачоў. А з гэтым усё цяжэй пры растучай канкурэнцыі. Да таго ж некаторыя газеты, каб прыхлабусчыць канкурэнта, сягаюць да аўтарытэтаў, якія ўмеюць пагразіць... анафемай! А не так даўно яшчэ культурны чалавек саромеўся прызнацца да шавінізму, неталерантнасці, аўтарытарнасці, пахнучай інквізіцыяй, ці нармальнай дурноты і непісьменнасці.**

**Я чалавек, веруючы ў Бога, але з гэтым спецыяльна не абношуся, як некаторыя, якія нядаўна цалавалі парог „белага дома", а калі павеяў іншы вецер, з берагамі напоўніліся хрысціянскай верай. Нічога, Бога не ашукаюць: Ён добра ведае чалавечае сэрца. Але, хто там ведае, як з гэтым усім ёсць? У „Святым пісанні" напісана: „У апошнія часы многія паверацъ і будуць нават праракаваць"... Толькі што чалавек мерыць сябе іншай мерай, а іншых — іншай. Горш, калі гэтак робяць народы, і тады іншай мерай мерыцца дэмакратыя ў Шальчынінках, а іншай — у Вільнюсе. Але, усё ж, трэба в е р ы ц ь у аб'ектыўную, бо толькі такая яна, праўду.**

**Здарылася мне апублікаваць калісьці ў „Ніве" два рэлігійныя тэксты. Стараўся я ў іх прадставіць сваю вялікую пашану да веруючых людзей, хрысціян. Маглі б гэта быць мусульмане ці будысты — не толькі ад гэтага залежыць каштоўнасць чалавека. І прыйшоў у рэдакцыю ліст з Англіі ад праваслаўнага беларуса, эмігранта. Гэты даволі доўгі ліст не быў у нас надрукаваны, таму што „Ніва" хоча стаяць на нейкім узроўні. Напісаў гэты ліст хрысціянін, які сам многа выцерпеў, як піша. У ягоным лісце кожнае слова поўнае нянавісці да ўсіх, хто верує іначай і думае іначай. Чытач жадае мне поспехаў на ніве... атэістычнага выхавання моладзі. А на мяне крычалі раней, чаму і для каго напісаў я такія палымяна-рэлігійныя тэксты, не да друку ў нерэлігійным часопісе! А ў іх не было ні слова майго каментарыя.**

**У Бога верыць таксама і д'ябал, які Яго ведае вельмі добра, бо пакуль не збунтаваўся, быў вельмі блізка да нябеснага ўраду. Сатана ведае, як прышчапіць чалавеку нянавісць да бліжняга ці іншага народу (нават пад лозунгам „Бог з намі") ці іншага веравызнання, сумеў нават падкінуць насенне пустазелля ў чыстае зерне праўдзівай веры першых хрысціян. З імем Хрыста кідалі сыноў Божых у агонь, і гэта не так даўно, бо што значыць некалькі сотняў гадоў пры тысячагоддзях чалавечай нянавісці, дурноты і памылак.**

**Лукаш Баравіцкі**

## Аб'явы

### ФЭСТ У ГАЙНАЎЦЫ

У нядзелю, 20 мая г.г. у Гайнаўцы ў гарадскім парку адбудзецца беларускі фэст. Пачатак а 11 гадзіне. У праграме: выступленні беларускіх калектываў, прэзентацыя кандыдатаў на радных, паказы барацьбы дзюдо, кірмаш і сустрэча з беларускімі пісьменнікамі.





**Свойскія малюнкі**



*Дуб у Белавежскай пушчы.*

*Мал. У. Петрука.*

 

# Яну Чыквіну — 50

Яну Чыквіну — пяцьдзесят. Ажно не верыцца ў гэта. Здаецца, вось толькі ўчора арганізоўвалі разам нашу „Белавежу“, а сённячы ўжо шмат-хто з калегаў гадуе ўнукаў. Напластоўваюцца здабыткі і натуральнае іх асяроддзе, дзякуючы якому не застаюцца яны мёртвым капіталам культуры. Чытачы, паклоннікі, легенды і міфы, увесь (такі неабходны) калялітаратурны фальклор. Гэта датычыць і творчасці Яна Чыквіна.

Яна ў яго адметная ад самога пачатку, ад „Кошкі Броўкі“ з паловы пяцьдзесят сёмага, яшчэ бельскага ліцэіста. Гэта знак таленавітасці, уладання „іскрай божай“. Талент ёсць або яго няма. Адукаванасць і праца — хлеб адаронасці, без якога ўсё жывое памірае. Чыквін вылучаецца сярод нас дбайнасцю, культурай літаратурнага высілку, пашанай да слова і ашчадным карыстаннем ім. Быў жа ён адным з найпершых „белавежцаў“ з непавярхоўнай гуманітарнай эрудыцыяй, якой аваладалі мы значна пазней за яго. Гэта важная заўвага, якая тлумачыць ягоную выразную ролю ў літаратурным тут працэсе, спакойны ў яго крок хады да майстэрства. Такі высокі эпітэт належыцца яму даўно, але па законах часу — цяпер неаспрэчны. Прыемна мне ўсвядоміць гэта не лішні раз хаця б і таму, што прыналежу да той сябрыны творцаў, у якой відаць такія індывідуальнасці. Гэта нешта большае за асабістае, бо нацыянальнае.

Сакрат Яновіч



### БЕЛАРУСКАЯ ХВАРОБА

Ты спала. І ў спанні пацела:
За ім наўздагон — жаноцкае
цела
Мужчынскага цела хацела —
Бегла — і ўся маладзела.

Бліжэй ужо нельга і — як жа
далёка!
Шэптам шаптаць ці гучна
галёкаць?
Ва ўзвышшы духоўным
стаяла-ляжала
Нібыта мішэнь, спрагнелая
джала.

І ён быў пры ёй, і яна тут,
пры ім.
І ён для яе, ды яна для яго
З хвілін сваіх ткуць ветрагонны
кілім
Агнём азарэння, святым агнём.

Балесная ўлва долі шчаслівай...
Таму так і тухкае сэрца-камяк!
Часу, як кажуць, для нас няма,
І шчасце, як мовяць, даўно
раздзялілі.



### ФЕНОМЕН ДНЯ

Старэе дзень! Як чарнавік, гарыць
І спапяляецца ў труху феномен дня.
А з попелу — якая нам карысць?

Старэе дзень і з ім старэе ўсё кругом:
Вада ў калодзежы, калодзеж і чарпальнае вядро,
Сцяжына да вады і проста сцежка ў дом;

Старэе бацькі галава, старэе маці рот,
І грудзі у дзяўчат, старэе кожны агарод
І тое, што ямо, і што прадзе каўрот;

Старэе вуліца, суседзі, зайздрасць і данос,
Міністры ўсе і ўсё бюракратычнае багно,
Партрэты ідалаў жывых і нежывых даўно.

Ідэі пастарэлі, пастарэла радасць, боль душы
І пастарэла крыху пустата цішы,
І цалкам пастарэлі гімнаў клавішы.

Старэе дзень! Старэе сон, старэе дух.
І свет аціх да музыкі на шыбе мух.
Састарылася сонца і агонь яго патух...

Загнаны у дупло, у змроку, як сава,
Лаўлю шчупальцамі антэн, дзе праўда, дзе мана
І як з крышталінак жывых расце жывы феномен дня.

### СЛУПЫ БЯЗВЕР'Я

Няма чым дыхаць. Лістапад.
Вязнуць словы ў горле.
Меншыцца айчынны далягляд —
Ужо амаль толькі што з Дубіч
[illegible] да Орлі.

Нібы крывавы Тэрмідор,
Паўзе спазнелая цямрэча,
З сутоння вычварае нелюбоў,
З прывідаў дрогкіх келабро.

Святло душы ірве, калечыць,
Ды побач навакольных сцен
Нянавісць стромкая расце
І гонкія слупы бязвер'я
У самым цэнтры перыферый.

І дом бацькоўскі не відзён,
І песні матчынай не ўторым.
Круціць з гадзін вяроўку дзён
Касмалязыкая прастора.

## Віншуем і чакаем працягу

У красавіку паявіўся сігнальны нумар новага выдання на Беласточчыне: CZASOPIS, Pismo informacyjno-kulturalne Wschodniej Białostocczyzny, Białystok — Bielsk Podlaski—Hajnówka—Sokółka.

Рэдакцыя, якую складаюць Юрка Хмялеўскі, Веслаў Харужы і Славамір Назарук, во ўводным слове паведамляе: „Часопіс у асноўным будзе рэдагаваны па-польску, хоць некаторыя матэрыялы, літаратурнага ці фальклорнага тыпу, або па жаданні аўтараў, намерваемся друкаваць на беларускай мове (уключаючы дыялекты і гаворкі, якімі паслугоўваюцца нашы чытачы). Увядзенне польскай версіі з'яўляецца наступствам асіміляцыйна-паланізацыйных працэсаў, якім падлягае беларускае насельніцтва на нашай тэрыторыі. Гэта давяло да сітуацыі, у якой беларуская мова занікае нават у непасрэдных сямейных зносінах. Тэматыка, якая будзе закранацца ў „Часопісе“, з аднаго боку будзе служыць спыненню некаторых некарысных працэсаў, з другога — павінна спрыяць захаванню ўласнай культуры і тоеснасці“. Далей рэдактары пішуць, што з увагі на блізкую сваю лучнасць з Праваслаўнай царквой шмат месца будуць адводзіць рэлігійнай праблематыцы.

Што рэдакцыя прапануе чытачу свайго сігнальнага нумара? Артыкул Ю. Хмялеўскага „Jesteśmy u siebie“ пра перадвыбарчую сітуацыю ў нашым рэгіёне, даволі разгорнуты і цікавы тэкст С. Назарука „Czas rewolucji — czas Białorusi“, пра беларускае адраджэнне зараз пасля 1917 года, занатоўкі пра ўзнікненне Беларускага дэмакратычнага аб'яднання і пра беларускамоўныя перадачы ў беластоцкім радыё, разважанні пра агляд „Беларуская песня '90“ рэфлексію пра ўвядзенне закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы ў БССР, ліст у Камісію па замацаванні назваў мясцовасцяў і фізіяграфічных аб'ектаў адносна знявечання арыгінальных назваў на Беласточчыне. На „Праваслаўнай старонцы“ — тэксты „Zmartwychwstanie Pańskie“, „Św. błogosłowiony ogień“ і „Смерць Ісуса Хрыста“ (гэты тэкст пачэрпнуты з „Падручніка для беларускіх школаў і самаадукацыі“, Варшава 1936). На старонцы „Спадчына“ верш А. Сцепанюка „Вера“ і Я. Купалы „Брату ў чужыне“.

Як бачым, змест выдання нябедны. Прытым яно старанна надрукаванае і афармленае. І калі да чаго прычапіцца, то можна было б успомніць пра некаторыя карэктарскія недагляды. Але гэта дробязь, з якою, маем надзею, рэдактары справяцца ў наступных выпусках.

Што ж, віншуем маладых людзей з выдавецкім поспехам і чакаем працягу.

Часопіс можна набыць у нашай рэдакцыі. Цана аднаго экземпляра — 800 зл.

(ям)



 

## КОРАТКА АБ СВАЕЙ ПРАГРАМЕ

(Працяг са стар. 2)

Што яшчэ, на маю думку, самае неабходнае і патрэбнае жыхарам Гайнаўкі? Патрэбна ачышчальня сцёкаў. Патрэбна другая нітка водаправода. Маем у Гайнаўцы клопат з асветнымі справамі. Трэба будзе будаваць школу для дзяцей у новым квартале, „на Мазурах". Неадкладнага вырашэння патрабуе справа беларускага ліцэя. Здаецца, усе ўжо перакананы, што для асветы ў Гайнаўцы гэта прыярытэтная справа. Нарэшце, грамадства Гайнаўкі павінна салідарна дапамагчы ў пабудове музея. Гэта, як лічу, супольная справа і беларусаў, і палякаў.

(ям)

## Спісак кандыдатаў

(Працяг са стар. 1)

**Ян Парфенюк** (акруга 26)
**Ян Маляшэўскі** (акруга 27)

### НАРАЎКА

**Міхал Бароўскі** (акруга 1)
**Міхал Карэтка** (акруга 1)
**Сяргей Раманчук** (акруга 2)
**Уладзімір Скепка** (акруга 3)
**Ян Сухадола** (акруга 4)
**Ян Анішкевіч** (акруга 5)
**Раіса Харкевіч** (акруга 7)
**Валянцін Барташук** (акруга 8)
**Міхал Харкевіч** (акруга 9)
**Андрэй Скепка** (акруга 10)
**Анна Несцярук** (акруга 11)
**Славамір Янюк** (акруга 12)
**Яўген Валкавыцкі** (акруга 13)
**Павел Ляўша** (акруга 14)
**Анатоль Раманчук** (акруга 16)
**Валянціна Пацэвіч** (акруга 17)
**Тамара Мароз** (акруга 18)

# Новая царква ў Беластоку





Сонечны Сток — гэта новы раён Беластока, якому нядаўна споўнілася 10 гадоў. Побач яго хутка растуць два малодшыя раёны: Зялёныя Узгоркі і Лясная Даліна. Разам у гэтых трох раёнах пражывае ўжо больш 30 тысяч жыхароў. Паралельна з жыллёвым вядзецца тут і сакральнае будаўніцтва. Ужо некалькі гадоў будуецца рымска-каталіцкі касцёл блаславёнай Ядвігі. Праваслаўныя жыхары Сонечнага Стока і ваколіц таксама вырашылі збудаваць свой храм. Зараз пражывае тут больш 800 праваслаўных сем'яў. У 1989 годзе быў створаны асобны праваслаўны прыход, настаяцелем якога з'яўляецца айцец Уладзімір Цыбулінскі. Дзякуючы намаганням настаяцеля і вернікаў, была пастаўлена часовая драўляная царква, у якой рэгулярна збіраюцца прыхаджане гэтай часткі Беластока, і вядуцца інтэнсіўныя падрыхтоўчыя працы да пабудовы новай святыні.

І вось 22 красавіка г.г. быў пасвечаны краевугольны камень пад царкву Уваскрашэння Гасподняга і пад прыхадскі дом. Ва ўрачыстай багаслужбе ўдзельнічаў Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава, а таксама многія свяшчэннікі і вернікі з Беластока і ваколіц.

Нашым чытачам прапануем фотарэпартаж Уладзіслава Петрука з гэтай урачыстасці.

# МОЎНЫЯ ДЫЛЕМЫ

*„Вельмі Паважаная Рэдакцыя „Нівы"!*

*У „Ніве", калі адносіцца да Беларусі, пішацца на Беларусь, на Беларусі й г.д., прыклад: паехаў на Беларусь, на Беларусі сталася.... Задумайцеся, якое асэнсаваньне Вы будзеце мець, калі скажам: паехалі на Польшчу, на Расею, на Нямеччыну, на Францыю, ці на Польшчы, на Расеі, на Нямеччыне, на Францыі сталася? Чаму тады „на", а не „у" Беларусі, скажам, паехаў у Беларусь, у Беларусі сталася? Ці Паважаная Рэдакцыя можа адказаць на гэтае пытаньне?*

*Ці Вы часам ня думаеце, што прыйшоў час уключыцца Вам у рух АДРАДЖЭНЬНЯ і перайсьці на беларускі правапіс? Заміж пісаць Мінск, а пісаць Менск? Заміж пісаць маладосць, дзейнасць, поспех, а пісаць маладосьць, дзейнасьць, посьпех? Пакуль што, гэта ўсё. Дзякую.*

*З пашанай да Вас*
*+ Мікалай*
*Архіяпіскап і Першы Ярарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.*
*Таронта, Канада".*

**Пракаментаваць кранутыя ў пісьме праблемы рэдакцыя папрасіла супрацоўніка Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта мгр Ніну Баршчэўскую.**

Перш за ўсё хачу падзякаваць Архіепіскапу Мікалаю за пісьмо. Сведчыць яно аб тым, што Вы клапоціцеся і дбаеце пра чысціню беларускай мовы. Калі б такі падыход, як Ваш, да сваёй роднай мовы характарызаваў усіх беларусаў, то ў сённяшні час, яна, напэўна, квітнела б ва ўсіх сферах ужывання.

У сваім пісьме Вы закранаеце праблему ўжывання прыназоўнікаў **у** і **на** ў іх прасторным значэнні. Абодва прыназоўнікі, калі выражаюць прасторавыя адносіны, могуць спалучацца з вінавальным і месным склонамі. Прыназоўнік **у**, спалучаючыся з вінавальным склонам, між іншым, „ужываецца пры ўказанні на прадмет, месца ці прастору, унутр або ў межы якіх накіраваны рух, дзеянне... Ужываецца пры назвах мясцовасці, краіны, населенага пункта, куды хто-, што-н. накіроўваецца. *Прыехаць у Беларусь*"[1]. Прыназоўнік **на** ў спалучэнні з вінавальным склонам „ужываецца пры абазначэнні месца ці прадмета, на паверхню якога накіраваны рух або дзеянне...

Ужываецца пры абазначэнні месца, прадмета або асобы, у бок якіх накіравана дзеянне ці якія з'яўляюцца канцавым пунктам руху. *Ехаць на Палессе*"[2]. Спалучаючыся з месным склонам, прыназоўнік **у**, між іншым, „ужываецца пры ўказанні на прастору або месца, у межах якіх хто-, што-н. знаходзіцца або што-н. адбываецца. ... Ужываецца пры называнні мясцовасці, краіны, населенага пункта, дзе хто-, што-н. знаходзіцца, што-н. адбываецца. ... *У беларускім Палессі цякуць паўнаводныя рэкі*"[3]. А прыназоўнік **на** „ўжываецца пры абазначэнні месца ці прадмета, на якім (або на паверхні якога) знаходзіцца хто- або што-н., адбываецца якое-н. дзеянне. ... Ужываецца пры абазначэнні прасторы або прадмета, у межах якіх адбываецца якое-н. дзеянне. *На беларускім Палессі цякуць поўныя рэкі і густа стаяць лясы.* Чорны"[4].

З пададзеных прыкладаў вынікае, што ў пэўных словазлучэннях прыназоўнікі **у** і **на** могуць выступаць як сінанімічныя канструкцыі. Сінтаксічная сінаніміка праяўляецца і ў наступных прыкладах: *паехаць у вёску — паехаць на вёску, працаваць у вёсцы — працаваць на вёсцы*[5]. Такая сінанімічнасць характэрная не толькі сучаснай беларускай мове. Яна выступала і ў старабеларускай мове, напр.: *„и князь великий Тверъски далъ ему свою силу и поидоша в Литовъскую землю"*[6]; *„и княз великый Ягкаило раду собе учинил съ своею матэрю великою, княгинею Ульяною и з братею своею и со всими князи и бояры Литовъское земли и поехал до Кракова в Лядскую землю, такъ ж сам охристился и братя его князи и бояре похристилис и понял за себе королевую и корунован был того кролевъства коруною и оттул почали христити Литву в Латинскую веру и прислал арцыбискуп бискупа до Вилни, на Литовъскую землю"*[7].

Зразумела, такая сінанімічнасць прыназоўнікаў **у**, **на** не датычыць усіх словазлучэнняў з прасторавым значэннем, у якія гэтыя прыназоўнікі ўваходзяць. Нельга сказаць *„паехаць на Польшчу, на Расію, на Францыю"*, калі гэтыя словазлучэнні не маюць значэння напрамку, ці *„жыць на Польшчы, на Францыі"*, але можна сказаць *„паехаць на Украіну"*, *„жыць на Украіне"*. Гэтая самая праблема выступае, напр., і ў польскай мове: *„Pojechać na Białoruś, na Litwę, na Ukrainę, na Węgry; żyć na Białorusi, na Litwie, na Ukrainie, na Węgrzech"*, але *„pojechać do Anglii, do Stanów Zjednoczo-*

 







*nych, do Związku Radzieckiego: żyć w Anglii, w Stanach Zjednoczonych, w Związku Radzieckim*".

У сёньняшні час словазлучэнні тыпу „*на Беларусь, на Беларусі*“ выкарыстоўваюцца не толькі „Нівай“, але і беларускімі вучонымі-мовазнаўцамі, такімі вядомымі, як, напр., Л. М. Шакун: „*Вершы пачалі пашырацца на Беларусі з XVI ст.*“[8], „*Вядомы спецыяльныя дапаможнікі (азбукі) для навучання грамаце, створаныя на Русі*“[9]. „*Гэта граматыка была складзена ў Астрозе (на Украіне) ...*“[10]. „*Адзін з першых такіх дапаможнікаў — буквар маскоўскага першадрукара Івана Фёдарава, які эміграваў на Беларусь, затым пераехаў на Украіну*“[11]; і беларускай прэсай: „*Чакаем выдатнага беларускага спевака (Данчыка) зноўку на родную старонку*“.[12], „*Ян Пазьняк — адзін з найбольш глыбокіх, выніковых лідэраў і арганізатараў беларускай нацыянальна-вызваленчай, грамадскай і асьветніцкай дзейнасьці ў Заходняй Беларусі. ... Усе гэтыя гады Ян Пазьняк удзельнічаў у хрысціянскім палітычным руху на Беларусі*“.[13]; і беларускай эміграцыйнай прэсай, напр., амерыканскай: „*Больш за сорак гадоў беларуская эміграцыя ня мела патрэбных кантактаў з нацыянальным актывам у Беларусі. Больш за сорак гадоў лучнасьць з Бацькаўшчынай насіла толькі адмоўны характар крытыкі аднаго боку другім. Цяпер шмат што* [illegible] *мае немалыя магчымасьці браць удзел у падзеях на Беларусі й можа ўплываць на фармаваньне будучыні беларускага краю. ... Гастролі танцавальнага ансамбля „Васілёк“ па Беласточчыне і канцэрты Данчыка на Беларусі паказалі, якой урадлівай можа быць сёньня беларуская нацыянальная глеба і якое вялікае дапамогі яна патрабуе для росту маладых парасткаў*“.[14]

Яшчэ некалькі слоў адносна абазначэння мяккасці зычных у беларускай мове. Сапраўды, усе „спрашчэнні“ беларускага правапісу, а менавіта ліквідацыя абазначэння мяккасці зычных пры дапамозе мяккага знаку, прычынілі вялікае зло беларускай мове. Беларуская мова пачала страчваць сваю мяккасць і далікатнасць у сувязі з тым, што фанетычны прынцып „пішы згодна з вымаўленнем“ замяніўся прынцыпам „вымаўляй згодна з напісаннем“. Гэта якраз прывяло да таго, што многія сёння вымаўляюць беларускія словы цвёрда, не па-беларуску. Такое вымаўленне характэрнае, на жаль, не толькі вучням, што ўпершыню пачынаюць знаёміцца з беларускай мовай, але і многім тым носьбітам беларускай мовы, якія валодаюць ёю „ад калыскі“, але паддаліся ўплыву правапісу, як жа далёкага ад арфаэпічных норм беларускай мовы.

Трэба мець надзею, што ў сён[illegible] час перабудовы і ўсведамлення паасобнымі народамі сваёй гістарычнай, культурнай і моўнай непаўторнасці беларусы вернуцца да беларускага правапісу, абавязваючага да 1933 г. А правапіс не загінуў! Ёсць літаратурная спадчына 20—30-ых г.г., ёсць і сучасная мастацкая і публіцыстычная літаратура беларускай эміграцыі. Значыць, ёсць да чаго вяртацца. Ужо цяпер беларуская прэса БНФ адкінула абавязваючыя правілы правапісу і вярнулася да „мяккага, беларускага“. У інтэрв'ю, у адным з апошніх нумараў „Крыніцы“ В. Вячорка — навуковы супрацоўнік — таксама гаворыць аб патрэбе звароту да беларускага правапісу 20—30-ых гадоў. Гэты зварот павінен адбыцца хутка, каб многія навучэнцы (а будзе іх многа, калі пачне рэалізавацца закон аб увядзенні беларускай мовы на тэрыторыі ўсёй Беларусі!) ад пачатку знаёміліся з арыгінальным беларускім вымаўленнем і правапісам. Цяпер Міністэрствам народнай адукацыі БССР апрацоўваюцца новыя правілы беларускага правапісу. Якія яны будуць? Трэба спадзявацца, што беларускія.

„Ніва“ прытрымліваецца правапісу, абавязваючага на Беларусі, таму што газету выкарыстоўваюць настаўнікі на ўроках беларускай мовы, а падручнікі ў нас напісаны шмат гадоў раней таксама паводле „савецкага“ правапісу. Апрача таго, у школах выкарыстоўваюцца і савецкія падручнікі. Таму ўводзіць разнабой лічым пакуль што заўчасным. Спадзяемся, што вяртанне да правапісу, які абавязваў перад 1933 г., адбудзецца хутка. Тады і „Ніва“ вернецца да старога беларускага правапісу.

---

[1] Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, т. 5, к. 1. Мінск 1983, с. 586.

[2] Тлумачальны ...„ т. 3, Мінск 1979, с. 197.

[3] Тлумачальны ...., т. 5, к. 1, Мінск 1983, с. 596.

[4] Тлумачальны ...., т. 3, Мінск 1979, с. 198.

[5] А. А. Кривицкий, А. Е. Михневич. А. И. Подлужный, Белорусский язык для небелорусов, Минск 1978, с. 229.

[6] Увараўскі спіс летапісу, у: В. П. Красней, Л. М. Шакун, Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы, Мінск 1986, с. 97.

[7] Летапіс па спісу Красінскага, у: В. П. Красней, Л. М. Шакун, Практыкум..., с. 99.

[8] Л. М. Шакун, Гісторыя беларускай літаратурнай мовы, Мінск 1984, с. 106.

[9] Там жа, с. 149.

[10] Там жа, с. 150.

[11] Там жа, с. 150.

[12] Маладосць, № 1/1990, Мінск, с. 1.

[13] Навіны, 20 студзеня 1990 г., Менск, с. 4.

[14] Беларус, № 366, студзень 1990 г., с. 3.



 

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




*Інструментальна-вакальны калектыў малодшых класаў са Старога Ляўкова.*

„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ 90" — ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

# З РАЁННАГА АГЛЯДУ Ў БЕЛАСТОКУ

Раённы агляд беларускай песні для школьнікаў адбыўся 28 красавіка ў Беластоку.

Выступілі два школьныя хоры, два дуэты і сем салістаў. Удзельнікамі былі прадстаўнікі горада Беластока, а таксама двух гмін — Нараўкі і Заблудава. Не было сёлета ў раённым аглядзе ў Беластоку нікога з Нараўскай гміны, з Гарадка ці іншых вёсак. Затое актыўней выступіў, чым у мінулыя гады, сам горад Беласток.

Нягледзячы на тое, што па сённяшні дзень няма ў беластоцкіх школах беларускай мовы, з горада была большасць салістаў. Падкрэсліваем гэта з прыемнасцю, бо дае гэта права мець надзею, што і наш горад, сталіца польскіх беларусаў, будзе падтрымліваць нашыя традыцыі. Сёлета маладых удзельнікаў падрыхтавалі музычныя інструктары, якія тым ці іншым спосабам звязаны з нашым асяроддзем. І вельмі ім за гэта дзякуем.

Абодва хоры, якія прыехалі на конкурс, былі са школы ў Старым Ляўкове. Працуе з імі настаўнік музыкі з вялікай практыкай і шматгадовым удзелам яго калектываў у конкурсах беларускай песні Васіль Целушэцкі. Хоры з Ляўкова, а таксама інструментальна-вакальныя калектывы пад яго кіраўніцтвам, удзельнічаюць у конкурсах беларускай песні для школьнікаў ад моманту існавання гэтых конкурсаў.

З Ляўкова прыехала таксама маладзенькая салістка-другакласніца Кацярына Ахрымюк. Яе песенькі „Кот абжора" і „Міколка і пчолка" выклікалі ў прысутных агульную весялосць.

З вёскі Ляшукі прыехаў дзя[illegible], які спяваў у суправаджэнні дзвюх дудак, на якіх ігралі таксама дзяўчаткі з гэ-

(Працяг на стар. 10)



*Кася Санік з Беластока.*

Мікола Гамолка

## АПАНАСУ — МАЛА ЧАСУ

У хлапчыны Апанаса
Нелады заўсёды з часам.
Хоць забіся,
Разарвіся! —
Часу нўна не стае
Справы ўсе зрабіць свае.

А ў яго іх шмат, багата,
Як у будзень, так і ў свята:

Трэба хлопцу пагуляць,
Мяч па полі паганяць
З сябруком да самай ночы, —
Той да ўсіх забаў ахвочы.
Заўтра кліча ўжо рака,
І туды імчыцца з вудай.
Падпільноўваць там ён будзе
Акуня і шчупака.

А пасля яшчэ занятак
Павучыць дзяўчат-блізнятак,
Як скакаць цераз скакалку.
Потым ушчыпнуць Наталку,
Нібы гэта незнарок,
Хай жа будзе ёй урок:
Моцны
суд заўжды вяршыць,
А слабы няхай маўчыць!..

Тая плача —
Ён смяецца:
Плакса-вакса ты, сарока...
І нарэшце, схамянецца —
Трэба ж вывучыць урокі!

Да стала прысядзе збоку
І падручнік ледзь гартае.
Пазірае адным вокам,
А другое — засынае...

Іван Сіняўскі

## ЗЯЛЁНАЯ ХМАРКА

Так вялося здаўна: кожны першакласнік на школьнай алеі павінен быў пасадзіць дрэўца.

Сяргейка прынёс два дрэўцы: яблыньку і вішаньку.

Настаўніца сказала пасадзіць яблыньку. Сяргейка пасадзіў.

— А што рабіць з вішанькай? — спытаў ён.

— Кінь ты яе, — параіў хтосьці з вучняў.

Паглядзеў Сяргейка на вішаньку. Была яна невысокая, як ён сам. І галінкі без лісця, яшчэ толькі ў пупышках. Карэньчыкі густа, пераплюліся, нібы тая сетачка. Пашкадаваў Сяргейка вішаньку. „Кіну, дык яна засохне, — падумаў ён. — Не, трэба пасадзіць".

Дома ён узяў рыдлёўку, выйшаў на вуліцу і на ўзгорку каля паркана выкапаў ямку. Пасадзіў у яе вішаньку, паліў вадою.

Убачыў вішаньку Сяргейкаў дзядуля, сказаў:

— Марная твая праца, унучак. Зломіць хто-небудзь.

Сяргейка і сам думаў: мабыць, не месца тут, на вуліцы, дрэўцу. Але кожны дзень паліваў. А каб часам не зламаў вецер, убіў у зямлю калок і прывязаў да яго вішаньку.

Мінуў тыдзень, другі... Вішанька стаяла. Людзі яе абмі-

(Працяг на стар. 10)

Даўно гэта было. Яшчэ да цара Гароха.

Жылі ў той час у адной вёсцы бацька і тры сыны: Іван, Сцяпан ды Ярома. Ярома самы малодшы. І нельга сказаць, каб няўдалым нарадзіўся. Паглядзець на яго, дык такі ж маладзец, як і яго старэйшыя браты. Толькі гультаём вялікім быў, працаваць не хацеў.

Браты палоску аруць, проса сеюць, а Ярома ляжыць на печы. То бок баліць, то жывот у яго ные.

Час ідзе. Ярому ўжо дваццаць год. Але, як і раней, дурнем прыкідваецца.

Жыла ў тым сяле і Мар'я-прыгажуня. Убачыў яе аднойчы Ярома і страціў спакой. Злез ён з печы, нізка пакланіўся бацьку і кажа:

— Пасватай за мяне, тата, Мар'ю-прыгажуню.

Бацька кажа сыну:

— Я пасватаў бы за цябе, ды сораму не абярэшся. Не пойдзе за цябе Мар'я-прыгажуня...

— Як гэта не пойдзе? — выпнуў грудзі Ярома. — Я ж хлопец хоць куды!

— Сапраўды, хоць куды! — нахмурыў бацька бровы. — Працаваць не хочаш, ляжыш усё... Хто з такім гультаём свой лёс будзе звязваць? За працавітага, за твайго старэйшага брата Івана пайду сватаць Мар'ю-прыгажуню. А можа за Сцяпана.

— Супраць нічога не маю, татачка, — узняў угору рукі Ярома. — Ды толькі прашу цябе, не спяшайся са сватаннем. Давай крыху пачакаем.

Згадзіўся бацька і адклаў размову на тры месяцы.

„Тры месяцы, нямала часу, — думае Ярома. — Паляжаць можна... А потым і за працу вазьмуся".

Размова тая з бацькам адбылася вясною. Ляжыць Ярома, а лета праходзіць. Хутка і вызначаны тэрмін падыдзе. За гэты час браты проса і сабралі, і абмалацілі, і на рынку прадалі. А Ярома ўсё ляжыць. І нават не заўважыў, як праляжаў на печы вызначаны тэрмін. Вырашыў папрасіць бацьку зноў адтэрміноўваць сватанне. Маўляў, можа пройдзе лянота. Але бацька не згадзіўся.

Засумаваў, затужыў Ярома: справа зусім кепская. І надумаў тады Ярома ўкрасці ў суседа бычка-трацячка; зарэзаць яго, мяса схаваць, і як толькі Іван і Сцяпан з дому пойдуць, варыць яго і есці тайком. Бацька стары, не заўважыць. „Мяса — гэта мяса, — радуецца Ярома. — Буду есці як мага больш і стану прыгожым, дужым. Дужэйшым за братоў! Тады Мар'я-прыгажуня мне не адмовіць".

Фелікс Казлоўскі




КАЗКА

Так ён і зрабіў. Як толькі браты паехалі ў горад, Ярома ўкраў суседскага бычка-трацячка. І далей усё зрабіў так, як надумаў.

Вярнуліся Іван і Сцяпан дамоў, пакупкі гарадскія паказваюць. Івану-жаніху і бацьку купілі кашулі белыя палатняныя з вышытымі ўзорамі на каўнярах і рукавах. Сцяпану таксама кашулю, не менш прыгожую. Прывезлі браты падарунак і Ярому — кашулю белую палатняную, але без узораў вышываных.

Ярома пакрыўдзіўся і пытае:

— Чаму мне прывезлі такую кашулю непрыгожую?

А браты адказваюць:

— І за гэта скажы дзякуй, яна ж табе дарма дасталася.

Ярома нічога не адказаў. Узяў кашулю і на печ узлез.

Прыйшла раніца. Браты зварылі сабе кашы. Паелі. Поўную міску Ярому пакінулі і пайшлі пні карчаваць.

Толькі яны за дзверы — Ярома з печы саскочыў і ў хлеў бягом. Там ён мяса ў бочцы схаваў. Узяў Ярома кавалак лепшы і большы, прынёс у хату, паклаў у чыгун, і ў печ яго. Яшчэ бярозавых дроў падкінуў.

Варыцца мяса. Па ўсёй хаце пах ідзе. Бацька і пытаецца здзіўлены:

— Нібыта мясам пахне? Га, Ярома.

— Яшчэ чаго! Вам, тата, здаецца, — адказвае Ярома.

Бацька прамаўчаў. Выйшаў з хаты, сеў на прызбу і пачаў лапці плесці сынам. Ярома дастаў чыгун з печы і стаў есці мяса. Еў, еў. Ажно пакуль жывот не забалеў. І зноў лёг спаць.

Прыйшлі Іван і Сцяпан увечары дамоў пасля работы, стаміліся вельмі. Прылеглі крыху адпачыць. Бацька падышоў да іх і паклікаў на двор. На двары яны пра штосьці доўга гаварылі.

І тут сусед да іх у двор зайшоў. Паскардзіўся, што бычка-трацячка свайго ўвесь дзень шукаў, але так і не знайшоў. Відаць, злодзей у вёсцы завёўся. Бацька і старэйшыя сыны адразу ўсё зразумелі...

І кажа бацька з сумам:

— Прабач, калі ласка, суседзе. Бычка-трацячка ўкраў у цябе мой малодшы сын, Ярома. Ты яму пакуль нічога не гавары. І вы маўчыце, сыны. Ты, суседзе, не бядуй, за бычка-трацячка заплоцім табе. Сёння сыны грошы з горада прывезлі — проса прадалі.

Разлічыўся бацька з суседам поўнасцю, ды яшчэ рубель накінуў, каб крыўды не меў.

Потым пайшлі бацька і сыны ў хату, селі за стол вячэраць. Іван і гаворыць:

— Нешта мясам пахне...

І вырашыў тады Ярома іншы хітрык у памочнікі ўзяць. Братам падміргвае і кажа:

— Мае браточкі, пакуль вы працавалі, я на паляванне схадзіў. Дзіка забіў. Асвежаваў. І вам мяса навырыў.

Дастаў ён мяса, на стол паставіў...

**Працяг будзе**

## З РАЁННАГА АГЛЯДУ Ў БЕЛАСТОКУ

(Працяг са стар. 9)

тай школы. Спявалі і гралі вельмі прыгожа, багата выкарыстоўваючы традыцыйныя народныя прыёмы. Падрыхтаваў дуэт да конкурсу настаўнік Янка Цыванюк.

З Рыбалаў прыехаў шматгадовы лаўрэат школьных конкурсаў беларускай песні Адам Жарначук. За апошні год ён моцна пасталеў, падрос, а голас яго ўзмоцніўся і набраў акрэсленага тэмбру. Прыгожа спявае хлопец. Маем надзею ў наступным годзе слухаць яго ўжо ў конкурсе для дарослых, бо сёлета Адам канчае восьмы клас і мае намер далей вучыцца ў Бельску.

Сцяпан Копа падрыхтаваў на конкурс беластоцкую шасцікласніцу Моніку Конах. Добра выступіла дзяўчынка. У яе моцны і чысты голас, а практыка Сцяпана Копы дае ёй шанцы на добрае выступленне ў цэнтральным аглядзе.

Музычны кіраўнік Ірына Макац падрыхтавала да конкурсу сясцёр Аню і Івону Місеюк, Элізу Каменскую і Кацярыну Санік з Беластока. Дзяўчаткі выступалі ў дуэце і сола.

Адкрыццём на конкурсе стала маленькая вучаніца чацвертага класа з Васількова Марта Драль. Яе галасок, хоць яшчэ моцна дзіцячы, але ўжо выключна цікавы, поўны, дае ёй вялікія шанцы на будучыню. Тым больш, што заапекаваўся ёю рок-гурт „Альбаросіка" і асабіста яго саліст Янка Хоха.

Рэпертуар раённага агляду, хоць не надта новы, наогул быў прадуманы, цікавы, адпаведны да ўзросту, моцна народны і патрыятычны. Нельга было не ўзрушыцца, калі глыбокі моцны хлапечы голас Адама Жарначука заяўляў:

Я хачу прайсці па зямлі
Самым верным любімым
сынам,
Каб дарогі мяне вялі
Пад вятрамі любімай айчыны

і далей

Я хачу прайсці па зямлі,
Каб мне людзі сэрца адкрылі...

Нельга не верыць у шчырасць так выказаных гэтых слоў. І ўся зала — у адным імкненні з салістам, у адным парыве ісці ў лепшую будучыню добрымі сынамі сваёй айчыны, сваёй маці.

На Цэнтральны агляд вытыпаваны: **Адам Жарначук** (І месца), **Марта Драль** (І месца), **Эліза Каменская** (ІІ месца), **Моніка Конюх** (ІІ месца), **два дуэты — з Ляшукоў** (І месца) і **з Беластока** (ІІ месца), а таксама **хор** старэйшых вучняў **са Старога Ляўкова**.

Жадаем усім удзельнікам добрага выступлення ў чарговых конкурсах.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара

# ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**Іван Гурбан**

### ЗВОН ПЧАЛЫ

**У садку хлапчук малы**
**Чуе ціхі звон пчалы:**
**— Я руплівая пчала,**
**Дзе я толькі не была?!**
**Дзень пры дні**
**Імчу ў палёт**
**І збіраю**
**З кветак мёд.**
**І дамоў з мядком лячу —**
**Людзям доўг**
**Аддаць хачу:**
**Вулей нам яны далі,**
**Каб мы радасна жылі**
**Каб не сек**
**Ні дождж,**
**Ні град,**
**Не завеяў снегапад...**
**Зноў я зараз палячу,**
**Даць мядку табе хачу!..**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220047, г. Мінск, вул. Несцерава, 62, кв. 65. Каршакевіч Лене (7 клас).

* ✻ *

БССР, 222395, Мінская вобл., Мядзельскі раён, п. Нарач, вул. Леніна, 13, кв. 17. Кашаваравай Наташы (4 клас).

* ✻ *

БССР, 222395, Мінская вобл., Мядзельскі раён, п. Нарач, вул. Нарачанская, д. 2, кв. 8. Чышэвіч Тані (6 клас).

* ✻ *

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, с. Краснае, зав. Карбышэва, 3, кв. 4. Крывашэй Алёне (4 клас).

### РОСЫ-РАСІНКІ

**Летні ранак**
**На сцяблінкі**
**Ніжа срэбныя расінкі,**
**Збажына**
**П'е іх уволю, —**
**Родзіць ніва,**
**Родзіць поле.**
**Ніва, бачна, весялее —**
**Не баіцца сухавея.**
**Ветрык гойдае расінкі**
**Як зярняткі,**
**Як крупінкі!**
**Ходзіць полем**
**Ранак босы,**
**Сее людзям**
**Шчасце-росы.**

### АДГАДАНКА

(17 ☆ 6) ☆ 2 = 13
(6 ☆ 2) ☆ 1 = 13
(2 ☆ 8) ☆ 3 = 13
(16 ☆ 2) ☆ 5 = 13
(13 ☆ 2) ☆ 2 = 13

Замест зорачак устаў патрэбныя арыфметычныя знакі — дадаць, адняць, падзяліць ці памножыць, але так, каб вынік заўсёды быў правільны.

(Працяг са стар. 9)

### ЗЯЛЁНАЯ ХМАРКА

налі, ніхто і галінкі не зламаў. А ў адну вясновую раніцу яна прыбралася ў лісце, стала падобнай на зялёную хмарку. І Сяргейка з палёгкай уздыхнуў:

— Будзе жыць мая хмарка!


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка".

# TV TELEWIZJA WARSZAWA

## PIĄTEK 18 V 1990 r.
### PROGRAM I

7.45 Express gospodarczy
8.05 Muzyka, kl. II — Muzyka opowiada
8.40 „Domator" — Nasza poczta
8.50 „Domowe przedszkole"
9.15 Wiadomości poranne
9.25 „Dorotej" — jugosł. film fab.
11.00 „Domator" — Szkoła dla rodziców
11.10 „Od Wersalu do Poczdamu" — Na frontach Europy i świata
12.00 Spotkania z literaturą, kl. V — H. Sienkiewicz „W pustyni i w puszczy"
13.30 TTR — s. II Matematyka — Zastosowanie trygonometrii do geometrii
14.00 TTR — s. II Spotkania z literaturą — Mickiewicz-Słowacki-Krasiński
15.10 W szkole i w domu
15.30 NURT — Polska emigracja
16.00 Program dnia — Telegazeta
16.05 Piłkarska kadra czeka
16.25 Dla młodych widzów: „Rambit"
16.50 Dla dzieci: „Okienko Pankracego"
17.15 Teleexpress
17.30 „Raport"
18.00 Program lokalny
18.45 „10 minut"
19.00 Dobranoc
19.10 „Teraz" — tyg. gospodarczy
19.30 Wiadomości
20.05 „Prywatne życie Elżbiety i Essex" — film fab. USA
21.50 Sport
22.00 „Weekend w Jedynce"
22.10 W kinie i na kasecie
22.30 Wiadomości wieczorne
22.45 Spór o jutro — Otwarte Studio

### PROGRAM II

16.55 Korepetycje dla maturzystów: Język ang. (42)
17.25 Program dnia
17.30 Wzrockowa lista przebojów Marka Niedźwieckiego
18.00 „Dobra nadzieja" (8) — serial franc.
19.00 Express gospodarczy (powt.)
19.20 Antena „2" proponuje
19.30 Program publ. kulturalnej
19.50 Rzeczypospolitej artyści Trójmiasta
20.50 Antyczny świat prof. Krawczuka — Horacy
21.30 Panorama dnia
21.50 „Joshua wtedy i dziś" — kanad. film fab.
23.45 Studencki Festiwal w Krakowie
24.00 Komentarz dnia

## SOBOTA 19 V 1990 r.
### PROGRAM I

6.45 TTR — s. IV Mechanizacja rolnictwa — Mechanizacja przygotowania i zadawania pasz
7.15 TTR — s. IV Produkcja zwierzęca — Selekcja zwierząt
7.45 Program dnia
7.50 „Tydzień na działce"
8.20 „Na zdrowie" — program rekreacyjny
8.40 „Ziarno" — program Redakcji Katolickiej dla dzieci i rodziców
9.00 „Drops" — magazyn dla dzieci i młodzieży oraz film z serii „Heidi"
10.30 Wiadomości poranne
10.40 „Była łąka" — film dok.
11.00 Telewizyjny Informator Wydawniczy
11.10 „Militaria, obronność, nowoczesność" — pr. dok.
11.35 „Laboratorium" — Atom — groźba, nadzieja?
12.05 „Wędrówki dalekie i bliskie" — film dok.
12.40 „Flesz" — program muzyczny
13.10 „Z Polski rodem" — magazyn polonijny
13.40 „Informacje" — program rozrywkowy
14.10 „Zderzenia" — program public.
14.50 „Róża" — film arch. z 1936 roku prod. polsk.
16.25 „Przechodniu, powiedz Polsce..." — film dok.
17.15 Teleexpress
17.30 „Butik"
18.00 Program lokalny
18.45 „10 minut"
19.00 Dobranoc
19.10 Z kamerą wśród zwierząt
19.30 Wiadomości
20.05 Konkurs Piosenki Eurowizji — Zagrzeb '90
23.10 Telewizyjny przegląd sportowy
23.30 Życie jest fraszką
23.40 Telegazeta
23.50 „Cyganka" — franc. film fab.

### PROGRAM II

11.45 Konkurs pięciu milionów
12.30 W świecie ciszy
12.55 Program dnia
13.00 Studio im. A. Munka
14.00 „5—10—15" — program dla dzieci i młodzieży
15.30 Małe kino: „Zatoka Pucka" — film dok.
16.00 „Cisza i dźwięk" — Chen Yi (ChRL)
16.30 Romana Libera Rock — program rozr.
17.30 Wielka gra — teleturniej
18.00 „Odeon" na antenie „2"
18.45 Program rozrywkowy
19.30 Alfa i omega
20.00 „Iwan i Aleksandra" — film bułg.
21.15 Studio Festiwalu „Łańcut '90"
21.30 Panorama dnia
21.45 „Mussolini — historia nieznana" (5) — serial USA
22.45 „Alfabet Kisiela"
23.00 „Polska baba" — program Danuty Rinn
23.40 Festiwal Studencki w Krakowie
23.55 Komentarz dnia

## NIEDZIELA 20 V 1990 r.
### PROGRAM I

7.00 Witamy o siódmej
7.30 „Kraj za miastem"
7.55 „Po gospodarsku"
8.10 „Od niedzieli do niedzieli"
8.55 Program dnia
9.00 Teleranek oraz film z serii „Emil z Lönnebergi"
10.30 Wiadomości poranne
10.35 „Tajemnice rosyjskiej przyrody" (11) — film dok.
11.05 „Szalom" — film dok.
11.45 Notowania
12.10 Telewizyjny koncert życzeń
12.55 Teatr Młodego Widza: „Małgosia contra Małgosia" (cz. II)
13.50 Sportowa niedziela
14.45 „Morze" — magazyn
15.10 „Pieprz i wanilia": — Z wiatrem przez świat — Rozjechać tęsknotę
15.55 „Angielska limuzyna" (4) — serial franc.
16.50 Antena
17.15 Teleexpress
17.30 Telewizyjny Teatr Rozmaitości: B. Winawer — „Znajomek z Fiesole"
19.00 Wieczorynka
19.30 Wiadomości
20.05 „Modrzejewska" (2) — serial TP
21.30 „7 dni — świat"
22.00 Sportowa niedziela
22.40 Telewizja z podziemia
23.40 Telegazeta

### PROGRAM II

9.00 „Kalejdoskop" — przegląd publ.
9.30 Przegląd tygodnia
10.05 Film dla niesłyszących: „Modrzejewska" (2)
11.30 „Jutro Poniedziałek"
11.55 Program dnia
12.00 Polska Fronika Filmowa
12.10 „Mojżesz prawodawca" — serial USA
13.10 100 pytań do...
13.50 Kino familijne: „Autostrada do nieba" (12) — serial USA
14.40 Maciej Niesiołowski — Z batutą i z humorem
14.55 A to Polska właśnie
15.30 „Podróże w czasie i przestrzeni": „Biblia a historia" — ang. serial dok.
16.20 „Polacy" — film dok.
17.00 Międzynar. Festiwal Telew. Programów Rozrywkowych Montreux '90"
17.30 „Bliżej świata" — przegląd telewizji satelitarnych
19.00 Wydarzenie tygodnia
19.30 Galeria „2" — Małgorzata Krasucka
20.00 Festiwal Muzyki Łańcut '90 — finał
21.30 Panorama dnia
21.45 „Mojżesz prawodawca" — (odc. 6 — ost.)
22.35 „Dziecko szczęścia, czyli Jeremi Przybora" — „Jesień"
23.20 Komentarz dnia

## PONIEDZIAŁEK 21 V 1990 r.
### PROGRAM I

13.30 TTR — s. II Mechanizacja rolnictwa — Przyczepy rolnicze i środki załadowcze
14.00 TTR — s. II Produkcja roślinna — Podstawy ochrony roślin
15.00 Muzyka, kl. II — Muzyka opowiada
15.35 NURT — Edukacja kulturalna
16.20 Program dnia — Telegazeta
16.25 „Luz" — program nastolatków
17.15 Teleexpress
17.30 „Gorące linie"
18.00 Program lokalny
18.45 „10 minut"
19.00 Dobranoc
19.10 W Sejmie i Senacie
19.30 Wiadomości
20.05 Teatr Telewizji: Władysław Terlecki — „Krótka noc"
21.15 Sport
21.25 „Kontrapunkt"
21.55 Szkoła mistrzów — Waldemar Dziki
22.10 Przegląd Piosenki Młodzieżowej
22.40 Wiadomości wieczorne
23.00 Język francuski

### PROGRAM II

16.55 Język angielski (30)
17.25 Program dnia
17.30 „Ojczyzna-polszczyzna"
17.45 „Czarno na białym" — przegląd PKF
18.30 Program rozrywkowy
19.30 Życie muzyczne: Jubileuszowe Dni Muzyki Organowej
20.00 Auto-moto fan klub
20.30 „Osądźmy sami"
21.15 „Rozmowy o cierpieniu"
21.30 Panorama dnia
21.45 „Panowie, dokąd idziecie?" — komedia prod. czechosł.
23.10 Komentarz dnia

## WTOREK 22 V 1990 r.
### PROGRAM I

8.05 Z naszych dziejów — Insurekcja Kościuszkowska
8.35 „Domator" — Rady na życzenie
8.50 „Domowe przedszkole"
9.15 Wiadomości poranne
9.25 „Bluebell" (2) — ang. serial obycz.
10.20 „Domator" — Rady na życzenie
11.10 „Od Wersalu do Poczdamu" — Rok Zwycięstwa
12.50 Spotkania z literaturą, kl. I lic. J.U. Niemcewicz — „Powrót posła"
13.30 TTR — s. IV Fizyka — Utrwalenie wiadomości (2)
14.00 TTR — s. IV Produkcja roślinna — Sposób zakładania i prowadzenia doświadczeń
15.00 AIDS — Zagubieni we współczesnym świecie
16.20 Program dnia — Telegazeta
16.25 Dla dzieci: „Tik-Tak"
16.50 „Gumisie" — film animow. prod. USA
17.15 Teleexpress
17.30 „Spojrzenia"
18.00 Program lokalny
18.45 Klinika Zdrowego Człowieka
19.00 Dobranoc
19.10 „Plus-minus"
19.30 Wiadomości
20.00 Spotkanie z ministrem Jackiem Kuroniem
20.15 „Bluebell" (2) — ang. serial obycz.
21.10 Sport
21.20 Listy o gospodarce
21.55 „45—89" — film dok. od. 4 „1980—1989"
22.45 Wiadomości wieczorne
23.05 Język angielski (59)

### PROGRAM II

16.55 Język angielski (59)
17.25 Program dnia
17.30 „Dookoła świata" — „U Bona Espero po latach"
18.00 „Pavocello" — nowela TP
18.30 Program public.
19.10 Modlitwa wieczorna z Kopalni Soli w Bochni
19.30 Studio Sport
20.00 „Non stop kolor" — „Kobiety w rocku" — film muz. prod. ang.
21.00 Wywiady Ireny Dziedzic
21.30 Panorama dnia
21.45 „Crimen" (4) — film polski
22.40 Komentarz dnia

## ŚRODA 23 V 1990 r.
### PROGRAM I

7.45 Express gospodarczy
8.05 Poznaj swój kraj — W porcie
8.35 „Domator" — Nasza poczta
8.50 „Domowe przedszkole"
9.15 Wiadomości poranne
9.25 „Diabełek za przednią szybą" — radz. dramat społ.-obycz.
10.50 „Domator" — Przyjemne z pożytecznym
11.15 „Po sześćdziesiątce"
12.50 Fizyka — Zjawiska świetlne
13.30 TTR — s. II Fizyka — Obwód prądu elektrycznego
14.00 TTR — s. II Biologia — Gady, ptaki
15.00 Muzyka, kl. I — Z muzyką na wakacje
15.30 NURT — Matematyka w szkole podstawowej — kl. V
16.20 Program dnia — Telegazeta
16.25 Dla młodych widzów: „SOS — sami o sobie"
16.50 Dla dzieci: „Trąba"
17.15 Teleexpress
17.30 „Sensacje XX wieku"
18.00 Program lokalny
18.45 Rolnicze rozmaitości
19.00 Dobranoc
19.10 Rzeczpospolita samorządna"
19.30 Wiadomości
20.10 Studio Sport — Puchar Europy w piłce nożnej: AC Milan — Benfica Lizbona
22.15 „Zawsze po 21-ej"
22.55 Wiadomości wieczorne
23.10 Język angielski (30)

### PROGRAM II

16.25 Korepetycje dla maturzystów: Język ang. (43)
16.55 Język francuski
17.25 Program dnia
17.30 „ABC" — teleturniej językowy
18.00 „Marc i Sophie" (13) — serial franc.
18.30 Magazyn „102"
19.00 Express gospodarczy
19.30 Program publicystyki kulturalnej
20.00 „Jonasz i Melicharowa" — film fab. prod. czech.
21.30 Panorama dnia
21.45 „W labiryncie" — serial TP
22.15 „Telewizja nocą"
23.00 Komentarz dnia

## CZWARTEK 24 V 1990 r.
### PROGRAM I

8.05 Rytmy ciała — Ring pokoleń
8.35 „Domator" — Nasza poczta
8.50 „Domowe przedszkole"
9.15 Wiadomości poranne
9.25 „Uwodziciel" (3) — serial ang.
10.15 „Domator"
12.40 Ministerstwo Edukacji Narodowej informuje
12.50 Sylwetki historyczne — Stanisław Wojciechowski
13.30 TTR — s. IV Matematyka — Zastosowanie rachunku różniczkowego do zadań
14.00 TTR — s. IV Spotkania z literaturą — Motywy romantyczne w literaturze Młodej Polski
15.00 Rytmy ciała — Ring pokoleń
16.10 Ministerstwo Edukacji Narodowej informuje (powt.)
16.20 Program dnia — Telegazeta
16.25 Dla młodych widzów: „Kwant" oraz film z serii „Ordy"
17.15 Teleexpress
17.30 „Biznes"
18.00 Program lokalny
18.45 Magazyn katolicki
19.00 Dobranoc
19.10 „Kupić, nie kupić" — magazyn konsumenta
19.30 Wiadomości
20.05 „Uwodziciel" (3) — serial krym. prod. ang.
20.55 „Interpelacje"
21.45 Sport
21.55 „Pegaz" — magazyn aktualności kulturalnych
22.40 Wiadomości wieczorne
22.55 Język angielski (59)

### PROGRAM II

16.25 Korepetycje dla maturzystów: Język ang. (44)
16.55 Język rosyjski (30)
17.25 Program dnia
17.30 „W labiryncie" — serial TP (powt.)
18.00 „Katastrofy" — „Trzęsienie ziemi" — ang. serial dok.
18.30 Program na życzenie
19.30 Przegląd filmów Piotra Parandowskiego — „Dublin" — polski film dok.
20.05 Wielki sport
21.00 Express reporterów
21.30 Panorama dnia
21.45 Perły z lamusa: „Nadworny błazen"
23.25 Komentarz dnia




**Беластоцкія кандыдаты ад БДА ✱ Наступны выбарчы крок ✱ Хто супроць беларускай сімволікі? ✱ Новыя беларускія выданні ✱ Тэатр з Іўя на Беласточчыне ✱ З мінулага Белавежы ✱ Грабаўчане ў Варшаве ✱ Крыжаванка.**

